2 ЧЭРВЕНЯ 1999г. СЕРАДА

# НАВІНЫ

№60 (591) КОШТ СВАБОДНЫ




# Список погибших в трагедии на Немиге 30 мая 1999 года

**Морг 10 клинической больницы.**
**Доставлено 36 трупов (11 мужчин, 25 женщин)**

| № п/п | Ф.И.О | Дата рожд. | Место жительства |
|---|---|---|---|
| 1 | Гаганова Ольга Александровна | 1984 | ул. Космонавтов |
| 2 | Инькова Мария Михайловна | 1983 | ул. Одоевского |
| 3 | Ткачева Елена Славовна | 1982 | |
| 4 | Бобрикова Ольга Валерьевна | 1980 | ул. Герасименко |
| 5 | Мельникова Алла Владимировна | 1975 | пр. Ф. Скорины |
| 6 | Корзун Дмитрий Георгиевич | 1979 | г. Светлогорск |
| 7 | Белицкая Ксения Анатольевна | 1983 | |
| 8 | Кулак Андрей Владимирович | 1983 | ул. Притыцкого |
| 9 | Кашицкая Татьяна Анатольевна | 1978 | пр. Рокоссовского |
| 10 | Арех Виктория Анатольевна | 1982 | пр. Рокоссовского |
| 11 | Бибило Марина Петровна | 1981 | ул. Цнянская |
| 12 | Мороз Татьяна Владимировна | 1981 | |
| 13 | Янцова Елена Николаевна | 1983 | ул. Космонавтов |
| 14 | Зеленкевич Игорь Васильевич | 1971 | ул. Якубовского |
| 15 | Конашенок Марина Викторовна | 1984 | ул. Острошицкая |
| 16 | Плакса Ольга Викторовна | 1986 | ул. Асаналиева |
| 17 | Шайко Александр Васильевич | 1977 | ул. Кабушкина |
| 18 | Поджарая Мария Алексеевна | 1980 | пр. Ф.Скорины |
| 19 | Кострицкий Александр Владимирович | 1980 | ул. Сухаревская |
| 20 | Коваленок Александр Николаевич | 1980 | ул. Шаранговича |
| 21 | Романовская Татьяна Николаевна | 1975 | ул. Каховская |
| 22 | Лобан Светлана Александровна | 1972 | ул. Либкнехта |
| 23 | Филиппова Елена Николаевна | 1981 | ул. Асаналиева |
| 24 | Калковская Анна Ивановна | 1972 | ул. Енисейская |
| 25 | Бунас Андрей | 1980 | |
| 26 | Тальминская Ольга Андреевна | 1977 | |
| 27 | Кулачкова Ольга | 1982 | |
| 28 | Чекунов Сергей | | |
| 29 | Мядель Павел | 1982 | |
| 30 | Жевжик Ольга | 1982 | |
| 31 | Стрелко Анастасия | 1981 | |
| 32 | Хитрук Лилиана Геннадьевна | 1980 | |
| 33 | Корниенкова Анастасия Алексеевна | 1981 | |
| 34 | Водопьянова Матрена Арефьевна | 1938 | |
| 35 | Кислов Василий Филиппович | 1957 | |
| 36 | Говин Владимир Иванович *(милиционер ОМОН ГУВД)* | 1975 | ул. Берута |

**Морг Минского городского бюро судебно-медицинской экспертизы (ул. Кижеватова, 58).**
**Доставлено 17 трупов (1 мужчина, 16 женщин)**

| № п/п | Ф.И.О | Дата рожд. | Место жительства |
|---|---|---|---|
| 37 | Шилова Анна Дмитриевна | 1981 | ул. Казинца |
| 38 | Орел Ольга Владимировна | 1979 | ул. Белорусская |
| 39 | Ким Валентина Семеновна | 1945 | ул. Кедышко |
| 40 | Вишневская Алена Викторовна | 1981 | ул. Горовца |
| 41 | Никитенко Ольга Ивановна | | |
| 42 | Бельская Анастасия Валерьевна | 1980 | г. Молодечно |
| 43 | Новаковская Алевтина Петровна | 1983 | ул. Горовца |
| 44 | Зуевская Мария Станиславовна | 1963 | ул. Кижеватова |
| 45 | Желобова Юрия Владимировна | 1980 | пр. Ф.Скорины |
| 46 | Насонова Елена Сергеевна | 1982 | ул. Гинтовта |
| 47 | Шевелева Ирина Леонидовна | 1980 | ул. Никифорова |
| 48 | Русакович Инесса Станиславовна | 1952 | ул. Байкальская |
| 49 | Шкурдзе Людмила Александровна | 1976 | ул. К.Либкнехта |
| 50 | Бренко Анна Николаевна | 1977 | ул. Калиновского |
| 51 | Карпенко Жанна Валерьевна | 1981 | пр. Рокоссовского |
| 52 | Рак Елена Николаевна | 1983 | ул. Щербакова |
| 53 | Рябоконь Геннадий Витальевич *(сотрудник ОПО ГУВД Мингорисполкома)* | 1974 | ул. Немига |

## Замест экзамена — пахаванне

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

У чора ў адзінаццаці мінскіх школах быў адменены першы выпускны экзамен у сувязі з пахаваннем вучняў, якія загінулі падчас трагедыі на мінскай станцыі метро «Няміга». Як нам паведамілі ў міністэрстве адукацыі, гэта школы № 11, 62, 97, 98, 138, 143, 174, 189, 191, 192 і 195. Усяго ў гэтых навучальных установах не далічыліся трынаццаці дзяцей. Выпускнікі гэтых школаў, па словах міністра адукацыі Васіля Стражава, змогуць атрымаць у свае атэстаты сталасці тыя гадавыя адзнакі, якія яны маюць, а хто захоча іх палепшыць, атрымае такую магчымасць у наступныя дні. ■


Фота IREX/ProMedia

# Скользкий путь

**Николай ХАЛЕЗИН**

**Трагедия в центре Минска всколыхнула страну. Подобной драмы Беларусь не переживала несколько десятилетий. Итог ее — 52 погибших. Кто виноват в том, что сотни, а то и тысячи белорусских граждан потеряли своих детей, братьев, сестер, друзей?**

### Никто не виновен

Еще мало кто знал о «Минской Ходынке», а белорусский президент, появившись перед телекамерами, заявил, что в происшедшем никто не виноват, кроме десятиминутного дождя. То, что Александр Лукашенко не имеет ни к кому претензий, не значит, что их нет у родственников погибших.

Белорусский президент заявил также о том, что всем нам надо сплотиться для того, чтобы пережить эту беду. Вокруг кого мы все должны сплотиться, он не уточнил, подразумевая, видимо, что люди и сами должны понять. Отечественное телевидение традиционно подыграло первому лицу государства, на протяжении двух дней рассказывая нам о «героическом подвиге медиков и сотрудников милиции, сделавших все для спасения белорусских граждан». Временами создавалось впечатление, что смотришь подборку рекламных роликов различных государственных структур, а не репортажи о постигшей страну беде.

Но никакие телезаклинания президента и его чиновников не смогут убедить население страны в том, что 52 человека потеряли жизни совершенно случайно. Ответственность за гибель соотечественников должны разделить председатель Мингорисполкома Ермошин и начальник городской милиции Тарлецкий. ►

*Окончание на стр.3*

**31 мая и 1 июня в Интернете проводилось виртуальное голосование по отношению к событиям 30 мая. Оно проходило на web-сайте Белорусского государственного педагогического университета при поддержке пресс-центра Хартии'97.**




**ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ**

### 1 июня были опознаны все жертвы трагедии

Всего погибших — 52 человека. Наша газета приводит список из 53 человек, полученный в органах милиции. Один умерший, чью фамилию нам узнать не удалось, оказался в этом «черном списке» случайно. Этот человек умер своей смертью и отношения к трагедии не имеет.

*Отдел информации*

### Нашы пераможцы

У Празе з 26 па 31 траўня праходзіў Міжнародны фестываль дакументальных фільмаў One World, арганізатарам якога быў фонд «Чалавек у бядзе». Сярод 45 фільмаў з усяго свету журы выбрала лепшы — фільм беларускіх дакументалістаў Леаніда Міндліна і Уладзіміра Андронава «Страх».

*Аддзел інфармацыі*

### У ролі ахвяры — гандлёвы аташэ

У Магілёве збілі і абрабавалі (600 долараў, 1 млн. беларускіх рублёў і два пасведчанні кіроўцы) гандлёвага аташэ амбасады Славакіі па краінах СНД. У адным з мікрараёнаў горада на яго напалі чацвёра хлопцаў — двое зусім маладых беспрацоўных, прыватны прадпрымальнік і рабочы аднаго з заводаў.

*Іван ЗАСАДА*



**НАДВОР'Е**




**3 чэрвеня** па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць. У **Брэсцкай**, **Гродзенскай** і **Гомельскай** абласцях месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы, вецер паўднёва-ўсходні, 4–9 м/с, пры навальніцах парывы да 14 м/с. Тэмпература паветра ноччу ў **Віцебскай** і **Магілёўскай** абласцях 7–12, на астатняй тэрыторыі 9–14 градусаў.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**440 000**

## СЕРАДА



З АЛЯКСАНДРАМ ДУБРАВІНЫМ

### Слёзы Нямігі

Хто вінаваты ў тым, што здарылася на Нямізе ў апошні дзень вясны? Так лёгка зараз перакласці ўсю віну на хлопцаў у міліцэйскай форме, якія забяспечвалі парадак падчас правядзення мерапрыемства. Але ж яны зрабілі ўсё магчымае і немагчымае для ўратавання людзей.

Папракаць гарадскія ўлады таксама не мае сэнсу: хіба можна было прадбачыць такое? Хто ж тады вінаваты ў страшнай трагедыі? Мне здаецца, што яе прычыну трэба шукаць у стане нашага грамадства. Усё жыццё нашага чалавека праходзіць у пастаяннай барацьбе з сабе падобнымі. Сілай трэба заваёўваць сваё месца пад сонцам. Сілай трэба адстойваць свае правы. На кватэру, на работу, на кавалак хлеба для дзяцей, на месца ў гарадскім транспарце. Каб жыць тут, трэба мець вострыя локці, злосць, быць гатовым перагрызці горла бліжняму. Вочы гараць нянавісцю, цела гатова даць адпор. Няма веры ў Бога, у справядлівасць, у розум, у закон. Крыкі і пратэсты фізічна слабейшых не ідуць у разлік. Няма маральных каштоўнасцяў, толькі матэрыяльныя. Ухапі сваё, адштурхні іншага, забяры ў яго тое, што падабаецца, — вось новая цынічная філасофія, якая насаджваецца ў грамадстве апошнія пяць гадоў! Няміга — яе лагічны вынік. Там загінулі самыя слабейшыя і самыя сумленныя — тыя, хто хацеў выратаваць слабейшых. Няміга — папярэджанне ўсім нам.

Час вяртацца назад, да Праўды, Справядлівасці, Бога. Светлая вам памяць, ахвяры Нямігі!

## Ярмошын і Тарлецкі далі справаздачу прэсе

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

**Учора ў Мінску пахавалі 38 ахвяраў трагедыі на Нямізе. Сваякам загінулых прадаставілі права самім абраць месца пахавання сваіх родных. Восем чалавек пахавалі на Маскоўскіх могілках, яшчэ семярых — на Чыжоўскіх, двух міліцыянтаў — на Кальварыйскіх. Жалобныя цырымоніі праходзілі і на іншых пагостах сталіцы. Астатнія ахвяры трагедыі будуць пахаваныя пазней у іншых месцах Беларусі.**

Учора ў Мінскім ДК Чыгуначнікаў адбылася грамадзянская паніхіда і адпяванне старшага сяржанта міліцыі Генадзя Рабаконя і старшыны Уладзіміра Говіна, у якой прыняў удзел шэф МУС Юры Сівакоў. А ўвечары ў палкавым храме ўнутраных войскаў, што ў Аколіцы пад Мінскам, адбыўся малебен за душы загінулых. Днём раней такі малебен непадалёк ад месца трагедыі на Нямізе адслужыў мітрапаліт Філарэт.

А тым часам мінчане, якія стыхійна ўжо тры дні запар прыходзяць да станцыі метро, жадаюць усталяваць там памятны знак.

Мінскі мэр Уладзімір Ярмошын і кіраўнік сталічнай міліцыі Барыс Тарлецкі на прэс-канферэнцыі заявілі, што сярод загінулых і пацярпелых п'яных не было. Мэр Ярмошын сказаў, што з гэтай трагедыі ўлады зробяць самыя сур'ёзныя вывады. Святкаванні ў сталіцы будуць праходзіць і надалей, але беспарадкаў улады больш не дапусцяць. На думку Ярмошына, на час абвешчанай жалобы, а таксама на 9-ы і 40-ы дзень трагедыі варта было б устрымацца ад гулянняў. У прыватнасці, мінскі граданачальнік лічыць, што святкаванні з нагоды 200-годдзя з дня нараджэння Пушкіна, якія павінны адбыцца ў Мінску 12 чэрвеня, у сувязі з надзвычайнымі абставінамі трэба перанесці на больш позні тэрмін. ■

## ЦЫТАТА НУМАРА

**Я лично полностью солидарен с нашим президентом в том, что как бы экономически трудно не было, но людям нужно отдать все возможное.**

*Олег АВХАЧЕВ*

*Газета «Рэспубліка», 1 июня 1999г.*

## «Пункты даверу» для наркаманаў

Юрый АЛЯКСЕЕЎ, БелаПАН

Днямі ў Віцебску, Мінску і Магілёве адкрыюцца «пункты даверу», у якіх будзе наладжаны абмен шпрыцаў, выдача дэзінфіцыруючых сродкаў і прэзерватываў для шпрыцавых наркаманаў.

Як паведамілі ў прадстаўніцтве ААН у Беларусі, гэтая ініцыятыва ажыццяўляецца дзяржаўнымі структурамі і грамадскімі арганізацыямі. Асноўная мэта стварэння гэтых пунктаў — знізіць рызыку заражэння ВІЧ пры ін'екцыйным ужыванні наркотыкаў. Пры неабходнасці ў пункце наркаманы змогуць атрымаць накіраванне на кансультацыю ў нарколага, венеролага, псіхолага і юрыста. Таксама жадаючым прадастаўляецца магчымасць добраахвотна і канфідэнцыйна здаць аналіз на ВІЧ, прайсці курс лячэння ад нарказалежнасці, рэабілітавацца. ■

## Створана грамадская камісія

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Па ініцыятыве кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту створана грамадская камісія па расследаванні прычынаў трагедыі, што адбылася 30 траўня ў падземным пераходзе метро Няміга. Камісія, у якую ўжо ўвайшлі самыя відомыя апазіцыйныя грамадскія дзеячы, мае на мэце знайсці сапраўдныя прычыны таго, што адбылося. Па словах прэс-сакратара БНФ Валерыя Буйвала, людзі проста не вераць афіцыйнай версіі Беларускага тэлебачання.

Грамадская камісія просіць усіх сведкаў падзеяў 30 траўня дапамагчы ў расследаванні. Тэлефон для кантакта: 284-50-12. ■

ФОТАФАКТ



Фота REX/ProMedia

1 чэрвеня ва ўсім свеце адзначаецца Міжнародны дзень абароны дзяцей. Наступіць час, калі і ў нашай краіне дзеці будуць шчаслівыя.

## На судзе глядзелі «кіно»

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

У панядзелак было працягнутае паседжанне ў Мінскім гарадскім судзе, дзе разглядаецца справа маладафронтаўца Яўгена Скочкі па абвінавачванні яго ў стварэнні беспарадкаў на вуліцах Мінска ў лютым бягучага года. Пасля таго, як быў дапытаны апошні сведка, у судовую залу ўнеслі тэлевізар, і адбыўся прагляд відэазапісу акцыі, зманціраваны супрацоўнікамі МУС, якія рабілі здымкі акцыі. Па словах абаронцаў Скочкі, на падставе прагледжанай відэастужкі нельга ні пацвердзіць, ні адмовіць віны падсуднага. На экране былі бачныя парушэнні Яўгенам грамадскага парадку, але толькі адміністратыўнага плана. Працяг паседжання прызначаны на сераду. Мяркуецца, што тады ж пракурор Чырын выкажа сваю думку наконт таго, якое пакаранне трэба прызначыць Скочку. ■

## Ліберал-дэмакратам перарэгістрацыя абыйдзецца ў 3,5 мільярда

Юрый ПАЦЁМКІН

БелаПАН

Паводле слова лідэра беларускай Ліберальна-дэмакратычнай партыі Сяргея Гайдукевіча, перарэгістрацыя ў міністэрстве юстыцыі абыдзецца партыі ў 3,5 мільярда рублёў. Партыя валодае інфармацыяй аб тым, што ва ўрадзе цяперашнім часам рыхтуецца пастанова аб парадку перарэгістрацыі партыяў, прафесійных саюзаў і грамадскіх арганізацыяў. Згодна з гэтым дакументам, пры перарэгістрацыі ўсе грамадскія арганізацыі павінны будуць заплаціць па 10 мінімальных зарплат за пастаноўку на ўлік сваіх структурных падраздзяленняў.

Гэта, адзначыў С.Гайдукевіч, можа падарваць фінансавы стан, у першую чаргу, буйных палітычных партыяў Беларусі, да якіх ён аднёс Беларускі Народны Фронт, Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю (Народная Грамада), Партыю камуністаў Беларускую, Аб'яднаную грамадзянскую партыю і ЛДП. Паводле словаў С.Гайдукевіча, дадзеная пастанова будзе прынятая Саветам Міністраў у першай палове чэрвеня. ■

## Дарагая адукацыя

Сымон ГЛАЗШТЭЙН

У Магілёўскім універсітэце паніка: у чарговы раз падвышаецца аплата за навучанне.

Пакуль гэта тычыцца толькі «кантрактнікаў». Цяпер замест 70 «мінімалак» у год ім прыйдзецца выкласці 100. Тыя ж, хто вучыцца на факультэтах з паглыбленым вывучэннем замежнай мовы, мусяць плаціць 120 замест ранейшых 80. Тлумачыцца гэта тым, што універсітэт, акрамя «бюджэтных», мае яшчэ 110 выкладчыкаў, якіх прыходзіцца наймаць для навучання «кантрактнікаў».

Застаецца толькі дадаць, што Магілёўскі універсітэт лічыцца самым танным не толькі ў горадзе, але і ў рэспубліцы. ■

## Паэтычныя чытанні працягнуцца

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Учацвер, 3 чэрвеня, у скверы імя Янкі Купалы будуць працягнутыя традыцыйныя літаратурныя чытанні, якія два разы на год праводзяць беларускія сацыял-дэмакраты. Першая частка чытанняў, якая прайшла два тыдні таму, выклікала досыць вялікую цікаўнасць мінчан.

Прадстаўнікі свае творы на суд слухачоў тады прыйшлі як вядомыя, так і зусім маладыя паэты, барды. БСДП(НГ) запрашае ўсіх жадаючых прыйсці і прачытаць свае паэтычныя творы. ■

## На працу — без прапіскі

Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ, БелаПАН

**Канстытуцыйны суд прыняў рашэнне, грунтуючыся на якім службовыя асобы цяпер не маюць падставаў адмаўляць грамадзянам у прыёме на працу з-за адсутнасці прапіскі.**

1 чэрвеня старшыня Канстытуцыйнага суда Рыгор Васілевіч абвясціў заключэнне Суда па справе аб адпаведнасці Канстытуцыі краіны і міжнародна-прававым актам першай часткі артыкула 182 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (КоАП). У адпаведнасці з гэтай нормай, службовыя асобы прадпрыемстваў, установаў ці арганізацыяў могуць быць прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці з накладаннем на іх штрафу (да 5 мінімальных зарплат), калі яны прымаюць на працу грамадзянаў, якія жывуць без прапіскі, з несапраўдным пашпартам альбо наогул без пашпарта. Суд прызнаў, што гэтая норма не адпавядае Канстытуцыі і міжнародна-прававым актам. Нацыянальнаму сходу Беларусі прапанавана ўнесці адпаведныя змяненні ў дзеючае заканадаўства. ■



ЗАМЕЖЖА

## NATO пачакае да 20 ліпеня

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Паўночна-атлантычная парламенцкая асамблея прыняла дэкларацыю аб сітуацыі ў Беларусі. Асамблея заяўляе, што тэрмін паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі заканчваецца 20 ліпеня гэтага года.**

У Паўночна-атлантычную парламенцкую асамблею ўваходзяць парламентары з усіх краінаў-чальцоў NATO. У сваёй дэкларацыі яны сцвярджаюць, што прызнаюць беларускую Канстытуцыю 1994 года як адзіны найвышэйшы закон у Беларусі, а таксама Вярхоўны Савет 13-га склікання – як адзінага прадстаўніка заканадаўчай улады. Парламентары выказалі спачуванне, што сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі працягвае пагаршацца, і асудзілі парушэнне свабоды прэсы.

Асамблея патрабавала ад Лукашэнкі аднавіць дзеянне дэмакратыі ў Беларусі і забяспечваць абарону правоў чалавека, вольную працу сродкаў масавай інфармацыі. Яна заначыла таксама, што «20 ліпеня заканчваецца тэрмін паўнамоцтваў прэзідэнта Лукашэнкі, і пасля гэтага часу ён не можа разглядацца як дэмакратычна абраны кіраўнік дзяржавы». Усе краіны-чальцы NATO заклікалі выкарыстоўваць усе магчымасці, каб паўплываць на беларускія ўлады і прымусіць іх паважаць правы чалавека і аднавіць дзеянне законнай Канстытуцыі. ■

## Два гады за забойства ласіхі

Валянціна КАЗЛОВІЧ

БелаПАН

На два гады папраўчых работ асуджаныя Пружанскім раённым судом жыхары Брэста браты Васіль і Анатоль Цэбрукі і Пётр Воран за тое, што самавольна застрэлілі ўзімку ласіху ў Белавежскай пушчы. Чацвёрты ўдзельнік злачынства, Віктар Галіпад, даведаўшыся аб тым, што супраць іх узбуджаная крымінальная справа, знік, і дагэтуль праваахоўным органам невядома аб яго месцазнаходжанні. Як высветлілася, паляванне на жывёліну працягвалася не адзін дзень — спачатку ласіху высочвалі, потым стралялі, і толькі на наступны дзень акрываўленую жывёліну дабілі сякерай. На думку прысутных у зале суда, браканьеры атрымалі па заслугах. Іншая «ласіная» гісторыя адбылася днямі ў Брэсце. Як распавядаюць відавочцы, маладая лось ўзростам каля 2 гадоў па незразумелых прычынах апынуўся ў ажыўленым горадзе — яго бачылі спачатку на вуліцах аднаго з мікраранёнаў на ўскраіку горада, а потым і ў самым цэнтры. Жывёліна перабегла цэнтральную вуліцу Маскоўскую, разбіла шкло ў адным з памяшканняў Брэсцкага электрамеханічнага завода і закончыла гарадскія прыгоды на тэрыторыі цягавай падстанцыі для тралейбусаў. Тут лася ўсыпілі, а затым вывезлі з горада. ■

ГРАМАДСТВА

# Жахлівае слова «спекулянт»

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

**Беларускія ўлады ўсё больш і больш вяртаюць краіну ў «слаўнае савецкае мінулае». З лёгкай рукі дэпутатаў прэзідэнцкага парламента ў палітычны і юрыдычны лексікон сучаснай Беларусі вярнулася народжанае ў гады ваеннага камунізму і бальшавіцкай харчразвёрсткі паняцце — спекуляцыя.**

Нядаўна дэпутаты-«палатачнікі», заклапочаныя праблемай эканамічнай бяспекі Беларусі, увялі ў крымінальны кодэкс артыкул 256, які прадугледжвае сур'ёзныя пакаранні для асобаў, што займаюцца спекуляцыяй.

Гэты тэрмін быў уведзены ў юрыдычную практыку бальшавікамі адразу пасля іхняга прыходу да ўлады. Прычым з тымі сваімі суграмадзянамі, якія ў цяжкія гады грамадзянскай вайны спрабавалі прадаць мех зерня ці бульбы, каб пракарміць сям'ю, пралетарска-сялянская ўлада асабліва не цырымонілася. У чэкістаў размова была кароткай: да сценкі ворага-спекулянта — і канец. Ваенны камунізм змяніўся НЭПам, і бальшавікі на нейкі час далі паслабленне прыватнай ініцыятыве. Аднак ненадоўга. Пабудова развітога сацыялізму патрабавала ад камуністаў бязлітаснай барацьбы з рознымі ворагамі і спекулянтамі ў тым ліку. Таму фактычна да самага скону Савецкага Саюза ў крымінальным кодэксе гэтай дзяржавы быў адпаведны артыкул.

Спекуляцыя лічылася асабліва небяспечным злачынствам, якое робіць замах на саму сістэму сацыялістычнай гаспадаркі. І пакаранні за такое злачынства былі адпаведныя. Ад аднаго года пазбаўлення волі за самы дробны перапродаж нейкай рэчы да вышэйшай меры за спекуляцыю ў асабліва буйных памерах. Але па меры занепаду сацыялізму і развіцця прыватнага бізнесу ў канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў крымінальны артыкул за спекуляцыю знік з заканадаўстваў амаль усіх былых краінаў народнай дэмакратыі і рэспублікаў колішняга СССР.

Да апошняга часу крымінальны пераслед за «спекуляцыю», а фактычна за прадпрымальніцтва, прымяняўся толькі на Кубе і ў Паўночнай Карэі. Неўзабаве да гэтай кампаніі можа далучыцца і наша краіна з таямнічай сістэмай гаспадарання пад назваю «рынкавы сацыялізм». Палата прадстаўнікоў у другім чытанні антыспекулянцкую папраўку да крымінальнага кодэкса ўжо ўхваліла, і цяпер справа толькі за Саветам рэспублікі і прэзідэнтам. Можна амаль не сумнявацца, што і там яна будзе ўхвалёная. Як вядома, Лукашэнка сам заўсёды лічыў амаль усіх бізнесменаў спекулянтамі і ўкладаў у гэтае паняцце крымінальны сэнс.

Нядаўна беларускі прэзідэнт запатрабаваў ад урада прымяняць да спекулянтаў самыя жорсткія меры. Пасля такой накачкі многія прэзідэнцкія чыноўнікі, якія раней адносіліся да прыватнай ініцыятывы насельніцтва даволі прыхільна, пачалі гаварыць, што хоць барацьба са спекуляцыяй мера і не рынкавая, але ў складаных эканамічных умовах Беларусі неабходная. Калі артыкул аб барацьбе са спекуляцыяй пачне дзейнічаць, вельмі многія нашыя суграмадзяне, якія заўсёды былі людзьмі законапаслухмянымі, самі таго не жадаючы, трапяць у разрад крымінальных злачынцаў. Напрыклад, бабулька, якая пажадае перапрадаць ля крамы дзесятак купленых яек ці пару пачкаў цыгарэтаў, каб хоць неяк працягнуць да наступнай пенсіі, на першы раз атрымае адміністратыўнае спагнанне ў выглядзе штрафу, а ў другі раз можа папросту загрымець на тры гады з канфіскацыяй. А для дробнага бізнесмена ці проста сярэдняга беларускага грамадзяніна, які захоча правярнуць «спекулятыўную» здзелку ў асабліва буйных памерах (а па нашых законах асабліва буйная сума пачынаецца са 100 доляраў), такі бізнес можа абярнуцца пяццю гадамі зняволення. Не варта гаварыць, чым такая барацьба абернецца для сістэмы гандлю, які, на думку многіх эканамістаў, ператворыцца ў сістэму размеркавання з такімі неад'емнымі атрыбутамі сацыялізму, як дэфіцыт, чэргі, чорны рынак і карупцыя. ■

ВІЗІТ

# Амерыканскі кангрэсмен з беларускімі каранямі наведаў Мінск

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

Вядомы амерыканскі кангрэсмен **Сэм Гэйдэнсон** пабываў з двухдзённым візітам у Беларусі. Ён не вёў ніякіх перамоваў з вышэйшым беларускім кіраўніцтвам, толькі сустрэўся з першым намеснікам міністра замежных справаў Сяргеем Мартынавым, з якім пазнаёміўся яшчэ ў Амерыцы. Галоўныя мэты візіту — пабачыць нашую краіну і наведаць мясціны, дзе да вайны жылі ягоныя родныя. Гэйдэнсоны паходзяць з мястэчка Параф'янава пад Докшыцамі. Там падчас вайны ў хляве хаваліся ад фашыстаў бацька Сэма з братам. Ад вернай смерці іх выратавала беларуская сям'я Станкевічаў. У 1982 годзе кангрэсмен Гэйдэнсон паспрабаваў наведаць Беларусь, але яго не пусцілі. Спробу ён паўтарыў зараз, і на гэты раз удала. Да ад'езду з Мінска кангрэсмен сустрэўся з беларускімі журналістамі і адказаў на іх пытанні.

***— Вы наведалі Докшыцкі раён, сустракаліся з простымі людзьмі. Ці не адчулі вы антыамерыканскіх настрояў у сваіх суразмоўцаў у сувязі з падзеямі ў Косава?***

— Такога не было, і нават у афіцыйных асобаў, з якімі сустракаўся, я не заўважыў такіх настрояў. Думаю, што людзі з Докшыцаў і Параф'янава памятаюць і суадносяць тое, што адбывалася там падчас вайны з фашыстамі, і падзеі ў Косава. У вёсцы майго таты жыло 400 яўрэяў, фашысты знішчылі ўсіх. Такі ж генацыд адносна касавараў праводзіць і прэзідэнт Югаславіі Мілошавіч.

***— Вядома, што беларускі прэзідэнт абвяшчае сябе сябрам Мілошавіча. Як бы гэта можаце пракаментаваць.***

— Я не вялікі спецыяліст у адносінах паміж Лукашэнкам і Мілошавічам, але для мяне здзівіла, што будзе вялікай памылкай для дэмакратычна абранага лідэра называць сваім сябрам чалавека, якога Міжнародны суд у Гаазе абвесціў злачынцам.

***— Як, на вашую думку, можа адбіцца на адносінах амерыканцаў да Беларусі такое стаўленне беларускіх уладаў да рэжыму Мілошавіча?***

— Думаю, больш істотна тое, што адбываецца ўнутры краіны. Напрыклад, пазбаўленне нашага пасла ў Беларусі рэзідэнцыі стварыла такі дыпламатычны прэцэдэнт, які забыць будзе цяжка. Не забудуць амерыканцы і тую манеру, з якой былі ўнесеныя змены ў Канстытуцыю 1994 года. А зараз амерыканцаў вельмі непакояць пагрозы ў бок журналістаў, тое, што ў вас арыштоўваюць і збіваюць удзельнікаў несанкцыянаваных мітынгаў, нарэшце, што ў вас бясследна знікаюць людзі.

***— Беларускі прэзідэнт неадназарова выказваў шкадаванне з той прычыны, што з Беларусі былі вывезеныя ядзерныя ракеты. Вы не баіцеся, што гэтыя шкадаванні вырастуць у пагрозу вярнуць ядзерную зброю, а потым яна будзе рэалізаваная?***

— У ацэнцы такой перспектывы мы сыходзім з таго, што вяртанне ядзернай зброі ні ў якім разе не дапаможа вырашэнню ўнутраных праблемаў Беларусі. Наколькі я ведаю, іх шмат. Калі Беларусь сапраўды хоча стаць моцнай краінай, ёй трэба пачаць са стварэння дэмакратычнага механізма і падумаць аб развіцці эканомікі ды сацыяльнай сферы. Па звестках, у вас зараз нават пенсіі паменшыліся — ніяжю вяртанне ракетаў дапаможа іх паднясць?

***— Якую прэсу атрымалі ў ЗША апазіцыйныя выбары, якія праводзіла беларуская апазіцыя?***

— Аб гэтым паведамлялася, і даволі шырока. У ЗША ведаюць пра тое, што быў арыштаваны адзін з кандыдатаў. Гэта нельга не асуджаць. Вашыя людзі яўна прадэманстравалі жаданне ўдзельнічаць у выбарах. Для краіны, дзе яшчэ памятаюць сталінскія рэпрэсіі, гэта факт, які ўражвае.

***— Якім вам бачацца перспектывы беларускага прэзідэнта пасля 20 ліпеня, калі скончаецца тэрмін ягонай легітымнасці?***

— Гэта пытанне не да нас. Калі б у нас прэзідэнт Клінтан на падставе апытання абвесціў сябе прэзідэнтам на новы тэрмін, не думаю, што на гэта станоўча адрэагавалі б грамадзяне Амерыкі. Але гэта вашыя ўнутраныя справы. Я толькі не думаю, што людзі ў вашай краіне вартыя меншага, чым іх суседзі ў Літве ці Польшчы. ■

ТРАГЕДЫЯ

# Скользкий путь

Николай ХАЛЕЗИН

*Окончание. Начало на стр.1*

## Воинствующие дилетанты

Городские службы, равно как и руководство столичной милиции, всегда своими действиями напоминали воинствующих дилетантов. Они никогда не могли профессионально организовать проведение массовых акций. Попробую доказать это несколькими примерами.

**1996 год.** «Чернобыльский шлях». Городские власти перегораживают проспект Скорины двумя милицейскими автомобилями. Демонстранты переворачивают автомашины. Почему? Потому, что не могли их не перевернуть.

Существуют законы управления большими группами людей во время проведения массовых акций. Основной закон — не препятствуй движению. Толпу можно направлять, рассекать, но ее нельзя остановить. Толпа сметает препятствия. Либо гибнут люди. Этого могут не знать младшие офицеры милиции, но обязательно знают те, кто отдает им приказы.

**1997 год.** Весенние акции оппозиции. В центре города сотрудники милиции заблокировали демонстрантов и начали избивать. Толпа становится агрессивной независимо от того, агрессивен ли каждый из людей, находящийся в ней. Десятки человек пострадали с обеих сторон.

Милицейское начальство знало о том, чем закончиться это побоище, но именно поэтому и был отдан приказ о применении дубинок. Перед милицией не ставилось тогда задачи о безукоризненном проведении демонстраций — властям была нужна эскалация напряжения для демонизации образа оппозиции.

**1999 год.** Февраль. Антифашистская демонстрация. На тротуарах огромные сугробы; с крыш свисают и падают огромных размеров сосульки. Демонстранты идут по краю проезжей части, не препятствуя движению транспорта, а вдоль колонны едет «волга» с громкоговорителями, и сидящие в ней старшие офицеры милиции предупреждают идущих в колонне об ответственности за нарушение маршрута.

В результате антифашистская акция прошла совершенно мирно, а организаторы, изменившие маршрут и уберегшие людей от риска, были осуждены: Алесь Беляцкий получил десять суток ареста, а Дмитрий Бондаренко и Валерий Костко оштрафованы на 80 миллионов каждый.

Как вы думаете, если бы демонстранты пошли по тротуару и кого-нибудь убило ледяной глыбой, председатель Мингорисполкома Владимир Ермошин сел бы в тюрьму за убийство? Отвечу — нет. Также, как не будет наказан за гибель 52-х наших соотечественников в городе, службами которого он руководит.

## Мокрые, но живые

Могло ли не случиться этой нелепой трагедии? Да, если бы городские власти и городская милиция действовали по тем нормам и правилам, которые приняты не только в западных государствах, но и у наших восточных соседей.

Во время проведения массовых акций городские службы обязаны: выставить ограждения, перекрыть движение транспорта, оцепить территорию сотрудниками правоохранительных органов, обеспечить дежурство медицинского персонала и пожарных. Практически ничего из этих мер сделано не было. А если и было, то бездарно.

Около рокового подземного перехода дежурило 5 милиционеров. Зато со стороны Дворца спорта — около 150-и. Что они там делали? Прятались от дождя под козырьком здания? Почему не были закрыты металлические ставни, которыми оснащен каждый из входов в метро? Почему власти так усиленно пытаются нас убедить в том, что все погибшие были трезвы, хотя мероприятие называлось «Пивной праздник», и все очевидцы в один голос утверждают, что было полно пьяных? Сегодня навряд ли кто-то ответит на эти вопросы, ведь глава государства порекомендовал нам не увлекаться поисками виновных.

Одно можно сказать с уверенностью — если бы городские власти искали ответы на эти вопросы задолго до трагедии, то 52 человека сильно промокли бы под дождем, но остались бы живы.



Фота Ул.ШЛАПАКА

● Следы рук на потолочном перекрытии подземного перехода. Люди пытались как-то спастись из подземного кошмара

## Телефон спасения — 911

Случись подобное в Америке, и в суд легло бы 52 исковых заявления к муниципалитету об умопомрачительной материальной компенсации. Хотя, возможно, господину Ермошину еще предстоит выступить в суде в роли ответчика. Но сказать суду ничего вразумительного он бы не смог — восскресная трагедия обнажила все пороки городских служб.

Один из них — отсутствие в стране полноценной службы спасения. Руководство соседней России еще в 1991 году осознало, что бедная страна, стоящая на пороге лавины техногенных катастроф, должна обладать хорошо оснащенной и профессиональной структурой, способной работать в экстремальных условиях. Тогда и появилось российское МЧС, возглавляемое человеком со странной фамилией Шойгу. Сейчас в обязанностях этой структуры огромный спектр деятельности — от расчистки завалов после землетрясений до конвоирования грузов с гуманитарной помощью. Высочайший профессионализм этой структуры ставят в пример всем остальным министерствам России.

Спасать людей из беды, подобной той, в которую попали наши соотечественники в минувшее воскресенье, должны не линейные милиционеры и врачи скорой помощи, а специально подготовленные профессионалы. И обучаться они должны не у тех, кто сам мало что знает, а в странах, где подобные службы существуют не один десяток лет.

Язык не поворачивается упрекать сегодня молодых ребят милиционеров в том, что они виновны в сложившейся ситуации. Их учат, как разгонять дубинками демонстрации, вместо того, чтобы отправить на стажировку за рубеж и научить, как охранять покой своих сограждан. А в чем упрекать врачей, получающих зарплату в 30 долларов? Все они стали такими же заложниками неграмотного руководства, как и мы.

31 мая в вечернем выпуске новостей диктора произнесла фразу: «Беларусі заўсёды прыходзіцца плаціць па рахунках спаўна». Она исчезла с экрана, так и не объяснив, по чьим же счетам мы расплачиваемся. ■

ГРАМАДСТВА

# Каму ў Беларусі патрэбнае Косава?

Сяргей АСТРАЎЦОЎ

**Улады маюць намер «па-новаму» вырашаць праблемы аднасінаў з польскай меншасцю. Каб раскалоць польскі рух і падпарадкаваць сабе яго частку, кіраўніцтва краіны выбрала тактыку «дыферэнцаванага» супрацоўніцтва з палякамі.**

У НАВІНЫ трапіў дакумент пад назвай «Аб дзейнасці Саюза палякаў і ўзаемадзеянні з ім», накіраваны ў Саўмін з Дзяржкамітэта па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў. У дакуменце вельмі падрабязна разбіраецца дзейнасць Саюза палякаў па ўсіх напрамках. Зыходзячы з гэтага, дзяржкамітэтам прапануюцца наступныя захады. Па-першае, падтрымліваць і супрацоўнічаць пераважна з тымі польскімі аб'яднаннямі, якія не належаць да Саюза палякаў. Міністэрству культуры рэкамендавана ўключыць «Дамы паляка» ў дзяржаўную сістэму ўстановаў культуры. Прапануецца таксама распачаць «комплексную праверку польскамоўнай адукацыі ў рэспубліцы, у тым ліку па пытаннях пасляховасці, засваення выкладаемых моваў, патрыятычнага выхавання». Далей гаворыцца пра тое, што наспела патрэба «комплекснай праверкі гаспадарчай дзейнасці Саюза палякаў і размеркавання гуманітарнай дапамогі і сродкаў, якія атрымліваюцца Саюзам з замежжа». Прапануецца таксама вырашыць, ці варта надалей даваць датацыі органу Саюза газеце Glos znad Niemna, а таксама ўнесці змены ў Закон «Аб грамадскіх аб'яднаннях», якімі б нацыянальна-культурным аб'яднанням забаранялася палітычная дзейнасць.

Карэспандэнт НАВІНАЎ сустрэўся са старшынёй Саюза палякаў **Тадэвушам Гавіным**.

***— З «самай высокай трыбуны» вас абвінавацілі ў тым, што вы нібыта збіраецеся на Гродзеншчыне стварыць беларускі варыянт Косава. Якія падставы былі ў кіраўніка дзяржавы для падобных заяваў?***

— У заяве Лукашэнкі гаварылася, што мы хочам тут стварыць сваю аўтаномію. Мэты такой заявы могуць быць рознымі. Напрыклад, пасварыць палякаў з беларусамі. Па-другое, назіраецца імкненне скампраметаваць польскі рух у вачах тых, хто некалі прыехаў жыць у Гродна з усіх куткоў Савецкага Саюза. Яны, як правіла, мараць аб шчыльным саюзе Беларусі з Расіяй. А мы, нібыта, ім перашкаджаем. Я меў непрыемную сустрэчу на рынку днямі з калегам-афіцэрам, маім былым падначаленым. Ён цяпер у адстаўцы, прыехаў да нас аднекуль з Расіі. Дык вось, наслухаўшыся заяваў пра «беларускае Косава», ён мне сказаў са злосцю: «Я вас папярэджваю, толькі паспрабуйце, у мяне дома аўтамат». Уладам таксама хочацца адначасова запалохаць і саміх палякаў, прымусіць іх сядзець ціха, нічога не патрабаваць.

***— Ці існуе ўвогуле падабенства паміж Гродзеншчынай і Косава?***

— Пачну з таго, што нацыянальная свядомасць палякаў, як і беларусаў, — слабая. Часта яны не ўсведамляюць, што больш за 50 гадоў савецкай улады іх амаль цалкам зрусіфікавалі і дэнацыяналізавалі. У Косава наадварот, нацыянальная свядомасць албанцаў вельмі высокая. Яны мелі самакіраванне, свой парламент, школы. Нічога падобнага палякі ў Беларусі не маюць. Таму нават параўноўваць гэтыя дзве нацыянальныя меншасці ў зусім розных краінах нельга. Я — праціўнік аўтаноміі. Гэта ізалявала б нас ад агульных працэсаў, якія павінны адбывацца ў краіне. Наадварот, мы павінны чым болей інтэгравацца ў беларускае грамадства. Але са сваёй мовай, культурай. Мы павінны мець магчымасць без перашкодаў займаць любыя пасады, выяўляць свае здольнасці ў розных сферах. Нам неабходна мець сваіх прадстаўнікоў у органах мясцовага самакіравання, у парламенце. Сёння ўлады не выконваюць тыя законы, якія ёсць. Напрыклад, старшыня Навагрудскага райвыканкама А.Ліс самавольна забараняе нам пабудаваць сваю школу, прычым грошай мы ў дзяржавы не просім. Я лічу, што такі чалавек не мысліць дзяржаўнымі катэгорыямі. Ён парушае законы, якія гарантуюць нам права навучаць нашых дзяцей на роднай мове, а значыцца — ён прыносіць шкоду дзяржаве. Колькасць незадаволеных людзей у Навагрудку з-за гэтага пашыраецца.

***— Вы гаворыце, што ў органах улады няма вашых прадстаўнікоў. Але ж улады любяць падкрэсліваць адваротнае: палякаў шмат на самых розных кіраўнічых пасадах, таксама і ў парламенце.***

— Туды бяруць людзей, нацыянальна несвядомых. У пашпарце яны былі запісаныя палякамі, але ніколі не выступалі за нацыянальныя інтарэсы. Яны цалкам залежаць ад уладаў. Ёсць і старшыні райвыканкамаў палякі, і старшыні калгасаў. Але каб змагацца за свае правы, трэба быць нацыянальна свядомым. Быў такі чалавек у Воранаве — загадчык раённага аддзела адукацыі П.Орпік, дык яго звольнілі. Увогуле, я заўсёды паўтараю, што ў Беларусі адзінай дзяржаўнай мовай павінна быць менавіта мова беларуская. Тады ўсе іншыя будуць пастаўленыя ў аднолькавыя ўмовы, і не будзе месца цяперашнім праблемам, калі ў Гродне няма школаў беларускіх, а польская толькі адна.



Тадэвуш Гавін (другі справа) падчас сустрэчы дэлегацыі Хартыі'97 са Старшынём Савета Еўропы Даніэлем Таршысам (чацвёрты справа)

***— Вы апублікавалі свае дзённікавыя запісы ў кніжцы Ojcowizna. Вы працягваеце весці дзённік?***

— Я мару выпусціць працяг. Праўда, гэта ўжо будзе не дзённік, а дакументальная рэч, хачу расказаць аб асобах, з якімі я сустракаўся, і перажытых падзеях, аб сваім бачанні сітуацыяў. Там будуць раздзелы «Прэзідэнт Валенса», «Прэзідэнт Лукашэнка», мне давялося сустракацца з Рымскім Папам, з Шушкевічам, Багданкевічам, Пазьняком, з нябожчыкам Карпенкам. Генадзь Карпенка затэлефанаваў мне 30 сакавіка і прапанаваў паехаць у якасці ягонага памочніка на еўрапейскую канферэнцыю, якая адбудзецца ў канцы чэрвеня ў Варшаве. Туды з'едуцца прэзідэнты, прэм'еры, міністры замежных справаў. Ад Беларусі планаваліся У.Латыпаў і Г.Карпенка. Калі я на наступны дзень хацеў паведаміць яму аб сваёй згодзе, даведаўся, што з ім здарылася... ■

ВАЙНА

# Сакрэтны план супраць Мілошавіча

## У вайне ўсе сродкі добрыя, у тым ліку камп'ютэрная вайна і сабатаж

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Амерыканскі прэзідэнт даў згоду на выкананне сакрэтнага плана па ўнутранай дэстабілізацыі сітуацыі ў Югаславіі. Пра гэта днямі паведаміў уплывовы амерыканскі тыднёвік Newsweek.**

Калі дыпламатыя дае збой, а вайсковыя дзеянні не даюць патрэбнага эфекту, амерыканскія прэзідэнты часта звяртаюцца да ЦРУ, каб тое дапамагло вырашыць сюю-тую праблему, — сцвярджае тыднёвік. Няздольны надаць эфектыўнасці бомбавым ударам па Югаславіі і не жадаючы ўводзіць туды наземныя войскі, Біл Клінтан абраў трэці шлях — «нябачнай вайны». Дарадца прэзідэнта па нацыянальнай бяспецы Сэндзі Бэргер прапанаваў Клінтану план па «заціскнні» Мілошавіча.

Ідэя спадабалася амерыканскаму прэзідэнту. Па словах разведчыкаў з найвышэйшага эшалона ЦРУ, Клінтан даў дазвол на правядзенне сакрэтных аперацыяў супраць рэжыму Мілошавіча. Як сцвярджаюць крыніцы Newsweek у Кангрэсе, сакрэтны план прадугледжвае навучанне косаўскіх паўстанцаў найпрасцейшым прыёмам сабатажу — рэзаць тэлефонныя лініі, падрываць дамы, вынішчаць запасы паліва і прадуктаў — каб пазбавіць Мілошавіча народнай падтрымкі і разбурыць тыя важныя аб'екты, па якіх немагчыма ўдарыць з паветра. Нічога новага ў гэтым спісе захадаў няма. Але ЦРУ таксама атрымала інструкцыі распачаць камп'ютэрную вайну супраць Мілошавіча — хакеры, што знаходзяцца на дзяржаўнай службе, мусяць пранікаць у камп'ютэрныя сеткі замежных банкаў, дзе могуць знаходзіцца персанальныя рахункі Мілошавіча, і «абнуляць» іх.

Гэты план адразу патрапіў пад жорсткую крытыку з боку кангрэсменаў — на іх думку, калі пра такія дзеянні стане вядома, то гэта справакуе абвастрэнне вайны на Балканах. Апроч таго, саюзнікі ЗША па NATO былі б супраць.

Некаторыя супрацоўнікі ЦРУ непакояцца, што план Клінтана прадугледжвае занадта жорсткія дзеянні, і што, магчыма, мэты плана не будуць дасягнуты. «Калі яны распачнуць гэтыя дзеянні, гэта будзе жудасна, — заявіў адзін з камп'ютэрных экспертаў NATO. — Лепей, каб яны адмовіліся ад плана».

Атрымліваецца, што найбольш цяжкая частка плана — гэта пранікненне ў банкаўскія сеткі. Выведка лічыць, што мільёны долараў, якія належаць Мілошавічу, знаходзяцца ў банках у некалькіх краінах, у тым ліку — у Расіі, Грэцыі і на Кіпры. Тым не менш, сачыць за банкаўскімі рахункамі не так проста, як гэта паказваецца ў галівудскіх фільмах. Па словах экспертаў, агенты ЦРУ мусяць наведаць кожны з банкаў, адкрыць там рахунак, вывучыць, як працуе банкаўская ўстанова, і шукаць «слабыя месцы» ў абароне сетак. Хакеры з Нацыянальнага агенцтва бяспекі тэарэтычна могуць выкарыстаць атрыманую інфармацыю і ў сваіх мэтах. Атрымаўшы доступ да рахункаў Мілошавіча, хакеры могуць зрабіць з імі ўсё, што заўгодна: перакачаць долары на свой рахунак, адправіць іх «у нікуды» ці паціху атрымліваць па пары тысяч долараў наяўнымі ў касах банкаў.

Тут у амерыканцаў паўстае яшчэ адно пытанне: ці варта ЗША рызыкаваць сваёй міжнароднай рэпутацыяй з-за Мілошавіча? Перш за ўсё пацерпяць банкі — не толькі замежныя, але і амерыканскія. Распачнуцца масавыя атакі хакераў на амерыканскія банкі.

Ёсць праблемы і ў ЦРУ. Трэба перш за ўсё недзе знайсці і абучыць косаўскіх баевікоў — і каб гэта не былі байцы Арміі вызвалення Косава, бо амерыканская адміністрацыя яшчэ год таму афіцыйна прызнала АВК тэрарыстычнай арганізацыяй, якая займаецца ў тым ліку і кантрабандай наркотыкаў. Таму для ЦРУ будзе вельмі складана весці пошук неабходных ім людзей у лагерах для ўцекачоў, а потым яшчэ правяраць — ці не звязаныя яны з АВК. Невядома таксама, ці захочуць абучаныя баевікі весці ўзброеную барацьбу за амерыканскія інтарэсы — можа, ім будзе прасцей тэрарызаваць насельніцтва і займацца марадзёрствам. Відавочна, што ЦРУшнікі не змогуць кантраляваць учынкі баевікоў.

Як бы там ні было, але ў амерыканскага парламента няма законных магчымасцяў перашкодзіць выкананню сакрэтнага плана ЦРУ. Таму рэалізацыя плана хутчэй за ўсё будзе распачатая. ■

НАЗІРАЛЬНІК

# Они уже не позвонят родителям

Валентина ТАРАН

«Сегодня в Минске хоронят 53 жертвы трагедии, но эта цифра не окончательная», — сообщил утром во вторник 1 июня ведущий программы новостей НТВ. И стало жутко. Оказывается, можно и вот так — походя, с подтекстом, дескать, ждем новых сведений об умерших в больницах, ждите и вы — проинформируем. А среди зрителей — друзья, родные, все жители Беларуси, ловящие каждое слово СМИ о жертвах трагедии на Немиге и верящие, что будут вести о выздоравливающих, а не об усопших. И надо ли эту веру разрушать непродуманным словом? «Нам не дано предугадать, как наше слово отзовется?» Слабое утешение...

Президент Лукашенко поблагодарил журналистов за спокойное и объективное освещение трагического события, всколыхнувшего всю страну. Но для журналистов спокойствие — не слишком высокая оценка. Вряд ли правильно было воскресным вечером 30 мая, когда все уже случилось, «крутить» по БТ фильм «Мертвец», а затем демонстрировать задорные танцы ансамбля «Хорошки». Город был полон самых невероятных слухов: от удара молнии в эпицентр толпы, пришедшей на концерт, до взрыва нескольких килограммов тротила в подземном переходе. А по телевидению — ноль информации. И, вероятно, высокие начальники, прибывшие на место трагедии, должны были не отгораживаться цепью ОМОНа от немногочисленных журналистов, а поднять с постели своих пресс-секретарей, которые бы оперативно и объективно давали достоверную информацию своим коллегам. В трагическую ночь, судя по телекадрам, работали только камеры российских телекомпаний. Именно эти съемки с утра начало демонстрировать и белорусское телевидение, отправившее репортеров на место трагедии только ранним утром. Да что толку от репортера, задающего распластанному на больничной койке мальчику очень своевременный вопрос: «Как к вам отнеслись медики, как они вас тут встретили?» Не о сватах же речь, в самом деле! Как могли отнестись врачи и сестры к раненым и изувеченным — оперировали, лечили, выхаживали. А вот почему белорусское государственное телевидение и радио не прервали тут же свои передачи, хотя бы для того, чтобы напомнить всем, кто был и не был в тот вечер на Немиге, извечное — «Позвоните родителям!», так и остается непонятным.

Обезумевшие мамы и папы носились по ночному городу, переезжая от морга к моргу, от больницы к больнице, задыхаясь от неизвестности, а в это время по глупой традиции кто-то начальственно пытался запретить съемки, грозился разбить камеру... И лишь один представитель власти, командир 2-ой роты ОМОНа Александр Барсуков, по счастливому стечению обстоятельств избежавший смерти в удушающей толпе, был готов на контакт с теми журналистами, которым было не до сна в эту страшную ночь.

Можно, конечно, в очередной раз утешиться примирительным «не стреляйте в пианиста, он играет как умеет...» Но каждый раз хочется думать, что мы уже не совсем таперы, а уже чуть-чуть музыканты... ■

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 553 Нумар падпісаны ў друк 01/06/99 (15:00) Наклад — 17.050